

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№154 (667) 7—9 жніўня 1993 г. Субота—панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 505534 экз. Кошт у розніцу — 10 руб.


## ФАКС

### Казахстан поделится хлебом. Но не "за так"

**Казахстанско-белорусское межправительственное соглашение о поставке зерна урожая 1993 года и оказании помощи в его уборке подписано в Алматы.**

Казахстан выделит квоту на поставку в Беларусь одного миллиона тонн зерна: пятисот тысяч во втором полугодии этого года и такого же количества — в первом полугодии 1994-го. В свою очередь Беларусь направит на предстоящую уборку урожая в Кустанайскую область две тысячи грузовых автомобилей с водителями и такое же число механизаторов для работы на комбайнах.

**Геннадий КУЛАГИН.**

### Еще один островок суверенности?

**Депутаты Ленинградской области настаивают на проведении опроса населения по вопросу о придании области статуса республики в составе Российской Федерации.**

Малый Совет принял за основу решение, в котором его председателю поручается подготовить соответствующие документы. Депутаты обосновывают свои требования тем, что изменение статуса позволит увеличить доходы в бюджет области за счет налоговых поступлений.

### Что б он сгорел, этот закон!

**Оригинальную акцию осуществил на улице петербургский художник Борис Алиев: он сжег несколько своих картин.**

К этому его подтолкнуло несовершенство таможенных законов Российской Федерации. Согласно им, произведения современных живописцев не могут покинуть пределы страны прежде, чем не будут рассмотрены в комиссии по вывозу предметов имущества и обложены таможенной пошлиной, которая порой превышает стоимость покупки.

**Михаил КАРЧИК**

### Отрава в яркой упаковке

**Вильнюсский центр гигиены сообщил, что в присланной из Бельгии партии замороженной говядины найдены исключительно опасные бактерии сальмонеллы.**

Гигиенисты потребовали, чтобы мясо было возвращено в страну-экспортер. К сожалению, случается и так, что забракованные врачами продукты попадают после этого на рынок, в том числе и соседней Беларуси. Вильнюсские гигиенисты предупреждают, что таким путем уже были отравлены младенцы, родители которых приобрели забракованные импортные молочные смеси. К отравлениям может привести и просроченная зубная паста и даже косметика.

**Андрей КОРСАК.**

### А вроде приличные люди!

**Сотрудница государственного департамента США и журналист из Камеруна арестованы в американской столице по обвинению в шпионаже.**

В ходе предварительного дознания они заявили, что работали в пользу повстанцев, пытающихся свергнуть правительство Либерии.

**Михаил МЗАРЕУЛОВ.**

### Спорт-экспресс

Международная шахматная федерация назвала пары соперников, которые в очных поединках в 1994 году разыграют в голландском городе Вайкан-Зеене право продолжить борьбу за звание чемпиона мира. На первом этапе турнира соперником минчанина Бориса Гельфанда будет английский спортсмен Майкл Адамс.

❑

В чешском городе Брно проходит чемпионат мира по пулевой стрельбе. Олимпийская чемпионка Ирина Шклова из Гродно в стрельбе на 50 м заняла 3-е место.

❑

У известного английского футболиста Гарри Линикера родился второй сын. Мальчика назвали также Гарри.

### Вкратце

**В Минск прибыла делегация корпуса военных инженеров США во главе со Скоттом Ф.Шлесом.**

Цель приезда делегации — обсуждение со специалистами Министерства обороны Беларуси конкретных мероприятий по восстановлению окружающей среды на территориях, которые будут освобождаться от баз ракетных войск стратегического назначения.

❑

**К числу святых по решению Синода Белорусской православной церкви причислен известный просветитель восемнадцатого столетия, архиепископ Могилевский и Белорусский Георгий Канисский.**

В могилевском храме Трех святителей состоялись торжества, посвященные канонизации святителя Георгия.

❑

**В Тбилиси проходит встреча представителей объединенной комиссии по урегулированию конфликта в Абхазии.**

Целью переговоров является развитие контактов для задействования механизма прекращения огня в зоне конфликта в Абхазии, а также обсуждение вопросов участия ООН и СБСЕ в его урегулировании.

❑

**Азербайджан, Армения, Грузия, Россия и Турция ведут переговоры о создании единой энергосистемы. Предварительное согласие на участие в этом проекте стороны уже дали.**

❑

**Предполагается, что Беларусь откроет свое генеральное консульство в латвийском городе Даугавпилсе.**

Об этом заявил на пресс-конференции министр иностранных дел Беларуси Петр Кравченко, который обсудит этот вопрос во время своего визита в Ригу в середине августа.

❑

**В Москве с 9 августа повышаются тарифы на услуги телефонной связи с городами России и ближнего зарубежья для всех категорий пользователей в 2,5 раза.**

К сведению: уже теперь минута разговора, например, с Киевом стоит 72 рубля.

### А ну-ка, покажи свой чемоданчик!

**Железнодорожникам Кустаная (Казахстан) рекомендовано "выявлять пассажиров, провозящих большие суммы денежных купюр".**

Согласно телеграмме Министерства путей сообщения, в связи с обменом в России денежных знаков ожидается массовый приток в Казахстан старых купюр образца 1961—1992 годов, поэтому одной из мер, способствующих выявлению таких фактов, назван досмотр личных вещей.

### Наша казарма с краю...

**"Российские вооруженные силы, представленные в Таджикистане 201-й мотострелковой дивизией, не принимают участия в боевых действиях на территории Горного Бадахшана".**

Это заявление сделано российскими властями в связи с тем, что в противоречивых сообщениях средств массовой информации говорится о мнимом участии в конфликтах в приграничных районах этой области на стороне правительственных войск Таджикистана подразделений российских вооруженных сил.

**Роман ЗАДУНАЙСКИЙ.**

### И как один умрем... Назло России

**Двое погибших, 11 раненых — таков итог месячной "миротворческой деятельности" в зоне грузино-абхазского конфликта отрядов УНСО (Украинской национальной самообороны).**

УНСО является военизированной структурой Украинской национальной ассамблеи — УНА.

Участие в прошлогоднем молдавско-приднестровском конфликте, которое обошлось без жертв, окрылило руководство УНСО, и было решено воевать в Абхазии, подтверждая, таким образом, декларированную политику постоянного противодействия России в любых регионах.

**Галина НЕКРАСОВА.**

### Ингуши поклялись на крови?

**Министерство безопасности Ингушетии опровергло сообщения российских СМИ о действующих на территории республики незаконных формированиях, а также о том, что они проникают в Северную Осетию.**

В некоторых сообщениях, в частности, не исключалась возможность причастности ингушских бандформирований к убийству 1 августа близ Владикавказа главы временной администрации в зоне чрезвычайного положения в Северной Осетии и Ингушетии Виктора Поляничко.

### А партия-то рабочая!

**Двадцать человек погибли, 10 получили ранения в результате нападения боевиков курдской рабочей партии на два мини-автобуса в провинции Битлис на юго-востоке Турции.**

Как сообщило Анатолийское агентство, сепаратисты блокировали дорогу в уезде Мутки неподалеку от деревни Енидоган. Остановив мини-автобусы, в которых ехало 30 человек, террористы заставили всех покинуть машины и открыли по ним огонь. Личности погибших устанавливаются, раненые доставлены в государственную больницу города Битлис. Турецкие силы безопасности проводят широкомасштабную операцию по поимке нападавших.

**Сергей ФЕОКТИСТОВ.**

### Который час?

**Простой вопрос сотрудников КПП Оршанского отдела внутренних дел на транспорте застал могилевчанина Н. врасплох.**

Все его 2700 часов фирмы "Луч" показывали разное время. Возникает другой вопрос: сколько же нужно денег, чтобы купить такое количество часов? 10 миллионов рублей.

**Сергей ПАВЛОВ.**

*Стыхія*

# Колькі палешукам быць "венецыянцамі"?

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

На верталёце падняліся мы над Верасніцай, вёскай на Тураўшчыне, і ўзялі кірунак на Кароцічы. Гэта ўжо ў Столінскім раёне. Адтуль у Жыткавіцкі райвыканкам дайшла трывожная вестка: нібыта паводка прарвала дамбу і трэба чакаць новага валу вады. Што гэта азначае для і без таго падтопленых вёсак тураўскай зоны, тлумачыць не трэба было кіраўнікам мясцовых калгасаў Мікалаю Касцючэнку, Сяргею Курбану, Івану Паршуту і, канешне, старшыні райсавета, народнаму дэпутату Рэспублікі Беларусь Аляксею Сцепаненку.

Ляцелі ў міжрэччы Прыпяці, Сцвігі і Моствы і з трывогай узіраліся ў акружаныя вадой вёскі, пачарнелыя ад вільгаці бульбяныя палеткі, велізарныя пажоўклыя плямы кукурузы, пасівелыя ад непагадзі квадраты збажыны. Як акінуць вокам, вада злева і справа.

Прайшлі над дамбай, і на сэрцы крыху адлягло. Яна стаяла, стрымліваючы раз'юшаныя плыні з лясістага паўднёвага боку. Толькі ў адным месцы земляны вал быў пераплюхнуты вадой, але ўсё ж стрыманы брыгадай дзяжурыўшай тэхнікі.

Усяго з гадзіну назад з Аляксеем Сцепаненкам мы былі ў Беражцах. На недабудаваным мосце праз Сцвігу — гэтым адзіным сухім шляху, што звязвае цяпер вёску з цэнтрам калгаса, Туравам і Жыткавічамі, — нас і чакаў старшыня калгаса "Шлях да камунізму" Мікалай Касцючэнка. "Дарогу жыцця" сцераглі як зрэнку вока. Затарвалі нават пяском мяхі і кідалі пад адхон свежага насыпу, не даючы размыць яго імклівай плыні.

Узводзіць пясчаныя валы на вуліцах давялося і ў саміх Беражцах. І ўсё ж хлынуўшы з боку Сцвігі паводак затапіў некаторыя хаты амаль па самыя вокны, забраўся ў гаспадарчыя пабудовы. Сёй-той і, скажам, Таццяна Дзербянёва дабіраліся ў хату па пояс у вадзе. Дзвярыма ёй служыла акно. Маці ж Таццяны — 80-гадовая Надзея Данілаўна Дзербянёва (на здымку), хата якой побач, — на лодцы пасвіла гусей.

Людзей, вядома, турбуе, дзе прыдбаць і насенную, і харчовую бульбу, і збожжа, і гародніну. Як пракарміць узімку жывёлу? Чым дапаможа ў гэтай няпростай сітуацыі ўрад, вобласць, раён? Але ўсё ж найпершы клопат — выртаць з макрэчы тое, што можна яшчэ сабраць — збожжа, бульбу.

Вольгу Грудніцкую, Еву Блоцкую, Наталлю Кудлаш і многіх іншых жанчын і мужчын з Беражцоў і Хільчыц мы сустрэлі на пшанічным полі паміж дзвюма вёскамі. Адных — з сярпамі, другіх — з косамі, віламі і падводамі. Усе яны разам уручную ўбіралі паспелую пшаніцу там, дзе гразлі камбайны.

Непадалёку шчыравалі на "Донах" камбайнеры Мікалай Белка, Савелій Гурын, Уладзімір Грыб, Міхаіл Леўкавец. Побач з імі — два трактары. Колавы — цягаць аўтамашыны, гусенічны — камбайны.

Канешне, не ўсё можна выратаваць. На Гомельшчыне пад вадой апынулася 132 тысячы гектараў сельгасугоддзяў, з іх 69 тысяч гектараў збожжавых, 31 тысяча — бульбы.

Значныя страты панесла і нясе жывёлагадоўчая галіна. Агульны ўрон ад паводкі — цяжка нават вымавіць — прадбачыцца ў памеры 500 мільярдаў рублёў.

Чаму ж так? Чаму ж такія выдаткі?

Яшчэ ў Жыткавічах, якія таксама пацярпелі ад паводкі, сутыкнуўся ў райвыканкаме з цікавым запісам у журнале дзяжурстваў. Міхась Яновіч 13 ліпеня занатаваў: "На 22 гадзіны ў горадзе выпала 50 міліметраў ападкаў, што перавышае норму і лічыцца стыхійным бедствам. Паведамлена ў штаб ГА вобласці і аблвыканкам". І хоць афіцыйная лічба на аб'яву стыхіі на 30 адзінак вышэй, дажджлівы ліпеньскі вечар быў, бадай, той кропляй, якая перапоўніла чашу, прывяла ў рух рэчкі Гарынь, Сцвігу, Убарць, Скрыпіцу і яшчэ мноства прытокаў і каналаў, а пасля і саму Прыпяць. На гэтым нябесная прорва не закрылася. Ліўні ішлі да канца ліпеня. Больш таго, вада ў рэчках прыбывала нават у пачатку жніўня, калі на святога Іллю ўсталявалася доўгачаканае сонечнае надвор'е.

Як бачым, падставы для трывогі былі. І сігналы, калі на тое пайшло, таксама. Але зноў жа мала хто павёў вухам. У тым жа Жыткавіцкім раёне, калі спатрэбілася, меліяратары не змаглі тэрмінова ўключыць ніводнай з 13 наяўных помпавых станцый. Ліўні падвергліі сумненню само праектнае рашэнне асушальна-арашальных збудаванняў. Стала зразумела, што з паўночнай часткі раёна ніяк нельга скінуць ваду ў Прыпяць па двух магістральных каналах, адзін з якіх да таго ж упіраецца ў сажалкі рыбгаса "Чырвоная Зорка". Праектнага ўдакладнення патрабуе ўся меліярацыйная сістэма. Але і гэта яшчэ не ўсё. Дзе-нідзе ў вобласці гідралагічныя збудаванні рвала вада перш за ўсё таму, што своечасова не прымаліся меры, каб папярэдзіць аварыю. Яскравы прыклад — прарыў дамбы на аб'екце "Скалодзін" у Мазырскім раёне.

Шмат папрокаў адрасавалася энергетыкам. У экстрэмальнай сітуацыі не праявіў сябе нядаўна створаны батальён грамадзянскай абароны.

— Пра меліярацыю ў горадзе ідзе гаворка кожны раз, — заявіў старшыня гарсавета Уладзімір Кустаў, — калі раз'юшыцца вада. Але праходзіць тыдзень, і ў аблвыканкаме, і ва ўрадавых структурах рэспублікі становіцца ціха, пра бяду ніхто і слухаць не хоча.

І гэтак год за годам, ад паводкі да паводкі...

**Фота аўтара.**

*Віншуем*

### Ёсць жа людзі з галавой!

**Вызначаны лаўрэаты прэміі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 1993 года за распрацоўку навуковых праблем і ўкараненне дасягненняў навукі і тэхнікі ў галіне будаўніцтва, архітэктуры і будаўнічых матэрыялаў.**

Прэміі прысуджаны:

Ермашову Валерыю Пятровічу, Радкевічу Генадзю Сцяпанавічу, загадчыкам лабараторый, Сяськову Валерыю Яфімавічу, загадчыку аддзела, работнікам Беларускага навукова-даследчага інстытута па будаўніцтву; Падвалоцкаму Уладзіміру Барысавічу, дырэктару па інавацыях і інвестыцыях Беларускай дзяржаўнай вытворчай будаўнічай карпарацыі, Герасімчыку Мікалаю Пятровічу, галоўнаму інжынеру арэнднага праектнага інстытута "Белпраект", Красоўскаму Віктару Міхайлавічу, галоўнаму інжынеру Магілёўскага домабудаўнічага камбіната, Грышчанку Віктару Аляксеевічу, начальніку аддзела гэтага камбіната, Альтшулеру Міхаілу Гіршавічу, галоўнаму канструктару праектнага інстытута "Магілёўграмадзянпраект", Афанасіку Аляксандру Аляксандравічу, прарабу Гомельскага арэнднага домабудаўнічага камбіната, Гарэліку Аляксандру Саламонавічу, начальніку аддзела гэтага камбіната, — за распрацоўку і ўкараненне тэхналогіі вібрадынамічнага ўшчыльнення асноў з насыпных і рыхлых грунтоў пры ўзвядзенні жылых дамоў і грамадзянскіх будынкаў;

Сачку Пятру Мікалаевічу, слесару, Сейбелю Алегу Іванавічу, дырэктару, Удзінцаву Сяргею Лазаравічу, галоўнаму інжынеру, Усянку Аляксею Мікалаевічу, галоўнаму канструктару, работнікам Гомельскага арэнднага прадпрыемства "Гомельбудматэрыялы", — за распрацоўку высокапрадукцыйнай тэхналагічнай лініі па вытворчасці палімерных будаўнічых матэрыялаў і асваенне на яе аснове новых вырабаў.

**Белінфарм.**

*У двух словах*

### Прысяга, рок і феерверк

**Мінскі гарвыканкам даў дазвол на правядзенне 8 верасня святочных мерапрыемстваў, прысвечаных Дню беларускай воінскай славы.**

Аб гэтым паведаміў карэспандэнту Белінфарма старшыня аргкамітэта па правядзенню свята Віктар Івашкевіч.

Як паведамлялася раней, праграма свята складаецца з дзвюх частак: у парку імя Я.Купалы Беларускае згуртаванне вайскоўцаў правядзе сімвалічнае прыняцце прысягі афіцэрамі і салдатамі запасу, затым пройдзе марш да опернага тэатра, дзе адбудзецца гала-канцэрт фальклорных і рок-ансамбляў. Святочныя мерапрыемствы, як чакаецца, завершацца феерверкам.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА**

### Один—ноль в пользу верующих...

**Достаточно успешно завершилась борьба верующих-католиков за возвращение им костела святой Троицы (святого Роха) в Минске.**

Хотя Белгосфилармония и сейчас проводит здесь концерты, но верующим предоставлена большая свобода во времени для отправления службы, а также дано разрешение на переоформление интерьера.

**Марат ВРУБЛЕВСКИЙ.**

### Информация о ходе сельскохозяйственных работ в колхозах, госхозах и межхозах республики по состоянию на 6 августа.

| Показатели | Всего по республике | В том числе по областям: Брестской | Витебской | Гомельской | Гродненской | Минской | Могилевской |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Обмолочено зерновых и зернобоб. культур (тыс.га) | 537,8 | 161,3 | 31,3 | 116,4 | 113,9 | 92,7 | 22,2 |
| Намолочено зерна (тыс.тонн) | 1658,8 | 511,7 | 83,1 | 315,3 | 407,5 | 279,7 | 615 |
| Урожайность (ц/га) | 30,8 | 31,7 | 26,6 | 27,1 | 35,8 | 30,2 | 27 |
| Произведено травяной муки и др. обезвожен. кормов (тыс.тонн) | 85,5 | 16,0 | 10,4 | 19,7 | 18,1 | 11,9 | 9,4 |
| В % к плану | 54,8 | 67,2 | 39,8 | 59,9 | 51,7 | 51,7 | 62,2 |
| Заготовлено сена (тыс.тонн) | 1799,8 | 321,5 | 312,3 | 277,5 | 268,4 | 435,7 | 184,4 |
| В % к плану | 48,4 | 57,6 | 44,6 | 42,3 | 55,8 | 80,8 | 34,2 |
| Заготовлено сенажа (тыс.тонн) | 5749,3 | 994,4 | 1097,1 | 844,1 | 682,7 | 1277,2 | 873,8 |
| В % к плану | 76,0 | 88,4 | 77,9 | 67,9 | 72,7 | 73,7 | 76,3 |
| Заготовлено силоса (тыс.тонн) | 2309,4 | 320,9 | 395,4 | 558,9 | 241,0 | 494,2 | 299,0 |
| В % к плану | 22,6 | 17,5 | 25,6 | 28,3 | 19,4 | 22,4 | 21,3 |

*Мысли, навеянные письмом председателя Центрального банка России В.Геращенко президенту Российской Федерации Б.Ельцину*

# Москва слезам не верит...

**Валерий КОРИБУТ**

Мы слишком долго спорим о необходимости введения национальной валюты. Дискутируем в парламенте, в прессе, на кухне... Считаем выгоды и потери от такого шага, рассуждаем о достоинствах и недостатках своего нахождения в "рублевой зоне", забывая об одной "мелочи": "рублевая зона" базируется на российской валюте, и у России может быть своя точка зрения на этот счет. И достаточно самостоятельная. Чтобы не быть голословным, процитируем некоторые положения письма, направленного на днях Центральным банком России президенту Борису Ельцину. Называется оно "О политике России в денежно-кредитных и валютных отношениях с государствами СНГ" и в нем есть такие строки:

***"Строго говоря, единая "рублевая зона" прекратила свое существование с 1 июля 1992 года — с разделением безналичного денежного оборота в связи с переходом на межреспубликанские расчеты через корреспондентские банковские счета. Именно с этого момента процессы кредитно-денежной эмиссии и ценообразования в различных республиках стали все дальше расходиться в разные стороны. На безналичном рынке стихийно формировался курс "национальных" рублей к российскому рублю, причем в некоторых государствах (Беларусь) этот курс получил официальный статус. Изъятие из обращения в Российской Федерации банкнот выпуска до 1993 года окончательно закрепило разделение денежных систем республик и одновременно обострило вопрос о дальнейшем характере наших взаимоотношений в денежно-кредитной сфере.***

Россия должна, во-первых, решить, заинтересована ли она в сохранении "рублевого пространства" на территории бывшего Союза ССР и, во-вторых, определить условия присоединения конкретных государств к "рублевой зоне"...

"Необходимо объяснить нашим экономическим партнерам, что смысл нахождения в "рублевой зоне" не заключается единственно в получении от Российской Федерации дотаций в виде рублевой наличности (бессрочный беспроцентный долг, в счет увеличения которого поставлялась в другие республики рублевая наличность, нельзя расценить иначе, как дотацию). На самом деле, нахождение в "рублевой зоне" требует от всех ее членов соблюдения единых правил денежно-кредитной и банковской политики, до чего нам пока еще далеко..."

Далее в письме предлагается начать переговоры о создании денежного союза, который, по мнению авторов документа, не может быть создан ранее, чем будет достигнута общеэкономическая интеграция — "как минимум, обеспечение свободного режима передвижения товаров, капиталов и рабочей силы, унификация правил таможенного, валютного налогового и банковского регулирования заинтересованных государств".

До заключения денежного союза Центральный банк России предлагает проводить следующую политику в отношении государств СНГ. Денежную наличность России предоставлять ***"только в пределах остатков средств на рублевых счетах банков и предприятий этих республик в банках Российской Федерации (в том числе в счет межгосударственных кредитов, предоставляемых правительством Российской Федерации в пределах ежегодных лимитов, предусмотренных в бюджете). Экономический смысл данной меры заключается в том, что наши экономические партнеры станут получать рублевую наличность не бесплатно, а в обмен на продаваемые в Россию товары, услуги, иностранную валюту, в счет должным образом оформленных кредитов — то есть в соответствии с принципами эквивалентного экономического обмена, принятыми в отношениях между суверенными государствами.***

Этой рублевой наличности может хватить только для оплаты нашими экономическими партнерами расходов неторгового характера (командировки, частные поездки граждан), но никак не для использования во внутреннем денежном обороте или крупномасштабных закупок товаров и иностранной валюты в России.

Тем же республикам, которые заявят о намерении участвовать в создании денежного союза, предоставить на выбор две возможности. Первая — обеспечить их купюрами старого образца, а по мере их износа — российской наличностью, но со специальной маркировкой. Впоследствии, после учреждения денежного союза, она может быть обменена на общую денежную единицу по установившемуся к тому времени курсу. Вторая — получить российскую наличность под залог (золота, платины, цветных металлов, нефти, зерна, хлопка или СКВ). В случае выхода уже из российской "рублевой зоны" эти государства должны будут либо вернуть российскую наличность, либо оставить реальные ценности.

Иными словами, желающим оставаться в "рублевой зоне" предлагается на выбор два варианта: либо вместо российских нефти и газа покупать за свои товары бумажную российскую наличность, либо заложить за эти же бумажки свое национальное достояние. И в любом случае Россия отделяет свою денежную систему от друзей—партнеров по СНГ.

Конечно, письмо председателя Банка России — не окончательное решение, но хорошо известно, что российское правительство, особенно министр финансов Б.Федоров, занимает еще более жесткие позиции. И рассчитывать на некие льготы или послабления со стороны России не приходится.

Пришло время делать окончательный выбор: либо идти дальше по пути строительства суверенного государства, сотрудничая на равных с бывшими советскими республиками, либо плестись в хвосте российской экономики, которая сегодня сотрясается от политических схваток. Введение полноценной национальной валюты (как временный вариант — "зайчик") в нынешних условиях становится уже необходимостью. По крайней мере, первоочередных шагов в этом направлении. В частности, пора сделать белорусский рубль единственным законным платежным средством на территории республики (кстати, когда решался вопрос об обмене устаревших дензнаков, Национальный банк настаивал на замене всех без исключения российских рублей, но не получил поддержки правительства и Бюджетно-финансовой комиссии Верховного Совета). Далее оперативно развернуть по республике сеть обменных пунктов валюты, включая российский рубль, чтобы перекрыть ему путь через торговлю на "черный рынок". И, наконец, привести в соответствие ценники в магазинах с номинальной стоимостью, указанной на расчетных билетах Национального банка.

Может быть, только став полностью самостоятельными, мы поймем все же, что жить в долг легко, но бесперспективно, и приступим в конце концов к действительной реформе экономики в соответствии с нашими национальными интересами.

